Гродна
№7 (442),
3 красавіка 2016

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ДУХОЎНАЕ ЎСЫНАЎЛЕННЕ



*У кожную хвіліну ў розных частках свету па Божай волі здзяйсняецца цуд зачацця чалавека. Аднак многія зачатыя дзеці могуць не дачакацца дня свайго нараджэння ў выніку аборту. Штогод у Беларусі каля 30-ці тысяч нявінных немаўлят забіваюцца ва ўлонні сваіх маці. Агулам ва ўсім свеце 55 мільёнаў жанчын робяць аборт. Гледзячы на гэтыя страшныя лічбы, нельга заставацца абыякавымі, таму Касцёл заахвочвае вернікаў далучыцца да абароны жыцця і прыняць духоўнае ўсынаўленне зачатага дзіцяці, якое знаходзіцца пад пагрозай аборту. Абяцанне духоўнага ўсынаўлення звычайна складваецца ва ўрачыстасць Звеставання Пана на час да Божага Нараджэння.*

● праціяг на с. 3

# ПРАЗ МІЛАСЭРНАСЦЬ ПРЫПАДОБНІЦЦА ДА ХРЫСТА

НОВЫ ПРАЕКТ

"Слова Жыцця" прадстаўляе ўвазе чытачоў праект пад назвай "Практыкаванні ў міласэрнасці". З гэтага нумара ў газеце распачынаецца публікацыя серыі разважанняў на тэму ўчынкаў міласэрнасці адносна душы і цела. У чытачоў з'яўляецца выдатная магчымасць паглыбіць сваё разуменне наконт праяў веры. Душпастары распавядуць пра тое, як можна рэалізаваць годныя справы.

Духоўныя "трэніроўкі" здольны пераўвасобіцца ў добрую звычку – звычку ажыццяўляць міласэрнасць. Праз яе чалавек становіцца падобным да Хрыста.

А Вы б хацелі быць падобнымі да Езуса?




● праціяг на с. 3

## Каляндар падзей

*4 красавіка*
*Урачыстасць Звеставання Пана. Дзень абароны жыцця ненароджаных дзяцей і малітва ў інтэнцыі зачатых дзяцей. Духоўнае ўсынаўленне.*

*13 красавіка*
*25-я гадавіна прызначэння кс. б-па Аляксандра Кашкевіча і заснавання Гродзенскай дыяцэзіі. Молімся за пастыра і Божы люд дыяцэзіі.*

*17 красавіка*
*Нядзеля Добрага Пастыра. Сусветны тыдзень малітвы аб пакліканнях да Божай службы ў Касцёле.*

## Запрашаем!

*Праграма каталіцкай рэдакцыі*

*"Сімвал веры"*
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале "Беларусь-4"*
***5 красавіка***
***ў аўторак у 19.45***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

## Ружанцовыя інтэнцыі:

*Красавік*

*Падзяка за 25-годдзе кіравання дыяцэзіяй Яго Эксцэленцыяй ксяндзом біскупам Аляксандрам Кашкевічам.*

*Аб Божых дарах і ласках для нашага пастыра.*

*Аб узрастанні духоўнай еднасці паміж біскупам дыяцэзіі і святарамі, святарамі і ўсімі вернікамі.*

## Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

***Як часта Вы моліцеся Вяночкам да Божай міласэрнасці?***

- *кожны дзень*
- *толькі ў нядзелю*
- *час ад часу*
- *падчас навэнны да Божай міласэрнасці*
- *а што гэта?*
- *цяжка сказаць*

ВЫКАЖЫСЯ



**"Бог дае надзею, якая неабходна свету" – папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**НЯДЗЕЛЯ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ**
**Ян 20, 19–30**

Калі быў вечар таго першага дня тыдня, і дзверы дома, дзе збіраліся вучні, былі замкнёныя ад страху перад юдэямі, прыйшоў Езус і стаў пасярэдзіне, і сказаў ім: “Спакой вам!”. І, сказаўшы гэта, паказаў ім рукі і бок. Узрадаваліся вучні, убачыўшы Пана. Тады Езус зноў сказаў ім: “Спакой вам! Як паслаў Мяне Айцец, так і я пасылаю вас”. І, сказаўшы гэта, дыхнуў, і кажа: “Прыміце Духа Святога. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца”. Тамаш, адзін з Дванаццаці, называны Блізня, не быў з імі, калі прыйшоў Езус. Іншыя вучні казалі Яму: “Мы бачылі Пана”. Але ён сказаў ім: “Калі не ўбачу на руках Яго ранаў ад цвікоў і не ўкладу пальца свайго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі сваёй у бок Яго, не павеaccording”. І праз восем дзён зноў былі ў доме вучні Ягоныя і Тамаш з імі. Хоць дзверы былі замкнёныя, прыйшоў Езус, стаў пасярэдзіне і сказаў: “Спакой вам!”. Потым кажа Тамашу: “Дай сюды палец твой і паглядзі на рукі Мае; дай руку тваю і ўкладзі ў бок Мой; і не будзь няверуючым, але веруючым”. Тамаш, адказваючы, сказаў Яму: “Пан мой і Бог мой!”. Езус кажа яму: “Ты паверыў, Тамаш, таму што ўбачыў Мяне. Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў”.

## ЗНАКІ МІЛАСЭРНАСЦІ

Гэта сустрэча Езуса з Тамашам і благаслаўленне Уваскрослага зрабіла нас здольнымі трываць у веры. Святы Тамаш на працягу тыдня “выспяваў” да гэтага дня. Апосталы спрабавалі пераканаць яго ў сапраўднасці пасхальных падзей. Хутчэй за ўсё, расказвалі ў падрабязнасцях, укладалі ў свой аповед шмат эмоцый. Не выключана, што Тамаш быў блізка да таго, каб паверыць ім. Канчатковым, аднак, стаў той момант, калі Тамаш сам убачыў свайго Настаўніка са слядамі мукі. Гэта “няверуючы” Тамаш “пазычыў” нам свае вочы, каб і мы маглі ўбачыць знакі Божай міласэрнасці.

**III ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Ян 21, 1–15**

Езус зноў з’явіўся вучням сваім каля Тыберыядскага мора. А з’явіўся так. Былі разам Сымон Пётр, Тамаш, званы Блізня, Натанаэль з Каны Галілейскай, сыны Завядзея і двое іншых з вучняў Ягоных. Сымон Пётр кажа ім: “Іду лавіць рыбу”. Яны адказалі яму: “І мы пойдзем з табою”. Пайшлі і селі ў човен, але ў тую ноч нічога не злавілі. Калі ўжо развіднела, Езус стаяў на беразе. Але вучні не ведалі, што гэта быў Езус. Кажа ім Езус: “Дзеці, ці маеце чаго з’есці?”. Яны адказалі Яму: “Не”. А Ён сказаў ім: “Закіньце сетку з правага боку чаўна і знойдзеце”. Яны закінулі і не маглі ўжо выцягнуць яе з-за мноства рыбы. [...] І калі выйшлі на бераг, убачылі распаленае вогнішча, а на ім пакладзеную рыбу і хлеб. І сказаў ім Езус: “Прынясіце яшчэ рыбы, што цяпер налавілі”. [...] Кажа ім Езус: “Хадзіце ж, снедайце!”. Ніхто з вучняў не адважыўся спытацца ў Яго: Хто Ты? – бо ведалі, што гэта Пан. А Езус падышоў, узяў хлеб і падаў ім, а таксама і рыбу. [...] Калі ж яны паснедалі, Езус кажа Сымону Пятру: “Сымоне, сын Яна, ці любіш ты Мяне больш, чым яны?”. Той адказаў Яму: “Так, Пане, Ты ведаеш, што я люблю Цябе”. Езус кажа яму: “Пасі ягнят Маіх”. Зноў кажа яму другі раз: “Сымоне, сын Яна, ці любіш ты Мяне?”. Ён адказаў: “Так, Пане, Ты ведаеш, што я люблю Цябе”.

## САМЫ СКЛАДАНЫ ЭКЗАМЕН

Хрыстос Уваскрослы перажываў толькі гэтае сумненне і чакаў адзінага адказу. Не толькі ад Пятра. З гэтым самым пытаннем Ён звяртаецца да кожнага з вернікаў. Ён пастаянна яго паўтарае, нібы ўвесь час нанова прыспешваючы нас шукаць у сэрцы праўду нашай веры. Толькі моц любові робіць вучняў Езуса здольнымі выконваць заданні. Доказам гэтага з’яўляецца Яго любоў. У ёй ёсць моц Уваскрасення – паяднанне з Богам усяго стварэння.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*



**СЛОВА РЭДАКТАРА**

*Кс. Павел Салабуда*

# Касцёл Міласэрнасці

*Пантыфікат папы Францішка разглядаецца, у першую чаргу, праз прызму міласэрнасці. У сваім навучанні і паслузе Святы Айцец прагне зрабіць усё, каб змяніць гэты свет, каб ён спазнаў Божую міласэрнасць. Абвяшчаючы Год міласэрнасці, Папа хацеў, каб не было вайны і тэрарызму, каб бедныя людзі мелі магчымасць весці годнае жыццё, каб праз міласэрнасць чалавек пазнаў добрага Бога, які кожнага благаслаўляе ў яго жыцці. Адзін з нямецкіх кардыналаў на распачацце Года міласэрнасці сказаў: “Мы павінны казаць пра Бога па-новаму. Пра Бога, які прымае, слухае, бачыць пакуты чалавека, спадарожнічае нам. Я лічу, што такі Бог мае ў сабе штосьці новае, што прыцягвае сучаснага чалавека. Гэта скандал, што многія людзі з па-за Касцёла ўспрымаюць яго як неміласэрны. Касцёл павінен змяніць гэта. Ён павінен стаць, як кажа Папа, Касцёлам з адчыненымі дзвярамі і вокнамі, Касцёлам, які выходзіць на перыферыю, а не з’яўляецца замкнутай крэпасцю”.*

Моц міласэрнасці пераменіць шырокую панараму трагедыі сучаснага свету, пераменіць сэрца кожнага чалавека. Касцёл становіцца асаблівым месцам абвяшчэння праўды Божай міласэрнасці. Варта ў чарговы раз прыгадаць запавет Хрыста Міласэрнага, перададзены праз святую сястру Фаўстыну: “Я даю табе тры спосабы здзяйснення міласэрнасці адносна бліжняга: першы – учынак, другі – слова, трэці – малітва; у трох гэтых ступенях заключаецца паўната міласэрнасці, якая з’яўляецца неабвержным доказам любові да Мяне” (Дз. 742). Сустракаючы ў сваім жыцці міласэрнага Езуса, чалавек становіцца міласэрным, а сваімі ўчынкамі, навучаннем і адначасова малітвай ён можа многае ўчыніць у сённяшнім свеце. “Шчаслівыя міласэрныя, бо яны спазнаюць міласэрнасць” (Мц 5, 7). На кожнага з нас ускладзена вялікая задача. Сёння вельмі патрэбны апосталы міласэрнасці, жывое сведчанне веры. Свет патрабуе ўчынкаў міласэрнасці, патрабуе малітвы аб міласэрнасці. Нельга занядбаць ніводнага з гэтых вымярэнняў апостальства, і тады супольная справа міласэрнасці прынясе плён. Перажываючы свята міласэрнасці, мы просім, каб людское сэрца перамянілася, а Касцёл, адчыняючы свае брамы і вокны, стаў цэнтрам культу Божай міласэрнасці.

**Міласэрнасць з’яўляецца фундаментам Касцёла. Кожны з нас належыць да Хрыстовага Касцёла і павінен будаваць жыццё на гэтым фундаменце. Касцёл Міласэрнасці з’яўляецца адзіным ратункам для чалавека і свету.**

ДЭКАНАТ
ЛІДА

# Белагруда

***Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі***



*Знешні выгляд святыні*

Касцёл пад тытулам св. Міхала Арханёла быў заснаваны тут у 1609 г. па фундацыі віцебскага ваяводы Яна Завішы пасля яго навяртання з кальвінізму. Драўляную святыню пабудавалі на маляўнічым пагорку на левым беразе ракі Дзітвы. З часам вакол касцёла ўтварыліся могілкі. Апошні драўляны касцёл быў пабудаваны ў 1703 г. у стылі барока на сродкі шляхціча Шэмета, дзедзіца Дзітвы. Уваход на касцёльны ўчастак, абнесены бутавай агароджай, пазначала трохпралётная каменная брама, над якой узвышалася драўляная двух’ярусная чацверыковая вежа-званіца.

Драўляныя храмы змянялі адзін аднаго да 1902 г., калі вернікі на чале са сваім пробашчам кс. Казімірам Сталеўскім вырашылі пабудаваць на свае сродкі каменны касцёл. Будаўніцтва пачалося ў наступным 1903 г. і скончылася ў 1907 г. У 1908 г. касцёл быў асвечаны пад гістарычным тытулам св. Міхала Арханёла. Новая святыня ў эклектычным стылі, дзе рысы неараманікі спалучаюцца з рысамі неаготыкі і мадэрну,



*Галоўны алтар*

узнесла стромкія вежы над маляўнічым наваколлем. Касцёл пабудаваны з жоўтай вонкавай цэглы. Гэта дзвюхвежавая трохнававая базіліка з трансептам і пяцігранная апсідай, да якой прымыкае складаная сістэма аб’ёмаў сакрыстый. Галоўны фасад пад трохвугольным франтонам фланкаваны чатырох’яруснымі тэлескапічнымі вежамі-званіцамі, увенчанымі гранёнымі спічакамі з люкарнамі. Крылы трансепта і апсіда паніжаны да ўзроўню бакавых наў, усе аб’ёмы накрыты двухсхільнымі (над апсідай і сакрыстыямі з вальмамі) бляшанымі дахамі. Над алтарным франтонам узведзена стромкая сігнатурка.

Інтэр’ер, падзелены трыма парамі калон на тры навы і перакрыты сістэмай крыжастых скляпенняў на падпружных арках, упрыгожваюць пяць алтароў. Галоўны алтар двух’ярусны, вырашаны накшталт курданёра ў неараманскім стылі. Першы ярус трыфорыумны: у цэнтры знаходзіцца абраз Маці Божай Міласэрнасці (вядомы з канца XVIII ст., лічыцца цудадзейным), упрыгожаны шматлікімі вотамі, у нішах размешчаны фігуры св. Мікалая (злева) і св. Казіміра (справа). Над першым ярусам усталяваны чатыры фігуры анёлаў і чатырохкалонны партал вакол надалтарнага акна-люкарны. Іншыя алтары па сваёй архітэктурнай стылістыцы падобныя на галоўны. Левы бакавы алтар прысвечаны Божай міласэрнасці, правы – св. Міхалу Арханёлу (абраз мае рысы мадэрну). У капліцах, зробленых у крылах трансепта, змешчаны яшчэ два алтары: злева – св. Юзафа, справа – Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Унутраная прастора касцёла (асабліва скляпенні) размалявана раслінным арнаментам у стылі мадэрн. Над нартэксам на дзве калоны абапіраюцца арганныя хоры, якія асвятляе акно-ружа на галоўным фасадзе.

За касцёлам, сярод могілак, захавалася драўляная двух’ярусная брама-званіца ад комплексу папярэдняга драўлянага храма. Яна ўяўляе сабой двух’ярусную (меншы чацвярык на большым) збудаванне пад чатырохсхільным чарапічным дахам. Могілкі абнесены мураванай агароджай, касцёл – металічнай на



*Інтэр’ер святыні*

цагляных слупках.

З канца XIX ст. да белагрудскай парафіі далучалася могілкавая капліца тут жа ў Белагрудзе. У ёй у 1933 г. быў знойдзены цікавы клад касцёльных медальёнаў-памятак, якія цяпер захоўваецца капуцынамі ў Ліпнішках. Пры касцёле дзейнічала парафіяльная школа, якой да 1832 г. апекаваліся лідскія піяры. У часы польскай улады да парафіі далучыліся капліцы ў Кургане і Мохавічах. У тыя гады колькасць парафіян перавышала 3600 асоб.

Раней да парафіі належалі капліцы ў Вялікім Ольжаве, Дайнове, Данеўшчыне, Дзітве Шэметаўскай, Мядзеўшчыне. Дзейнічаў у парафіі і шпіталь, фундаваны князёўнай Радзівіл, падкаморыяй літоўскай. Касцёл св. Міхала дзейнічаў увесь час, нават калі тагачасны пробашч кс. Стэфан Гародка быў арыштаваны і зняволены, парафіяне прыходзілі ў свой касцёл, маліліся, спявалі Гадзінкі, адпраўлялі Нешпары і маёвыя набажэнствы. З пачатку 1960-х гг. пробашчам тут быў а. Казімір Шаняўскі. У 1970-я гг. касцёл у Белагрудзе быў залічаны да помнікаў архітэктуры.

# УЧЫНАК ДЛЯ ДУШЫ БЛІЖНЯГА. НАСТАЎЛЯЦЬ ГРЭШНІКАЎ



працяг са с. 1

Людзі прыходзяць у гэты свет са схільнасцю да граху. Таму часта жыццё падобна на пастаянную барацьбу з грахоўнымі думкамі, жаданнямі, пачуццямі і, у далейшым, словамі і ўчынкамі. У малітве “Ойча наш” прамаўляем наступныя словы: “і даруй нам грахі нашы”, у якіх гучыць просьба прабачэння да Бога за здзейсненыя грахі. Гэта пацвярджае думку аб тым, што кожны чалавек мае патрэбу ў збаўленні. Паводле слоў апостала Паўла, усе мы грэшнікі: “Няма ніводнага справядлівага, няма разумнага, няма таго, хто шукаў бы Бога. Усе заблукалі, усе разам сталі нягоднымі; няма таго, хто рабіў бы дабро, няма ніводнага” (Рым 3, 10–12).

Зграшыць – значыць заблукаць, трапіць на няправільны шлях. У біблейскай тэрміналогіі няправільны – гэта шлях, далёкі ад Бога, ад Яго запаведзяў. З’яўляючыся братамі ў веры, нельга заставацца раўнадушнымі да таго, што з-за граху бліжні сыходзіць з правільнай дарогі. Хрысціяне не могуць думаць выключна пра сваё збаўленне, бо тым самым парушаюць галоўную запаведзь любові да Бога і чалавека.

У гісторыі Касцёла настаўленнем у духу любові вылучаліся апосталы, прарокі і святыя. Але гэтая задача таксама стаіць і перад намі, супрацоўнікамі Езуса Міласэрнага. Хрысціяне павінны быць тымі “анёламі на зямлі”, гатовымі засцерагчы бліжняга, папярэдзіць або штосьці яму падказаць, адкрыць на нешта вочы або запрасіць паглядзець на жыццё з другой перспектывы.

Даслоўны пераклад з грэчаскай мовы слова “настаўленне” гучыць так: “заклікаць кагосьці задумацца”. Інакш кажучы, чалавек павінен прапаведаваць, бо настаўленне з’яўляецца адным са спосабаў абвяшчэння Евангелля. Яго таксама можна расцэньваць як павучанне, параду, якія вынікаюць з клопату і любові да бліжняга.

Настаўленне належыць здзяйсняць далікатным і лагодным спосабам, які вынікае з Божай любові. Калі сорам або страх замінаюць у здзяйсненні ўчынку міласэрнасці, неабходна звярнуцца з малітвай да Духа Святога. Да яго ж звяртаемся, выпрошваючы дар мудрасці. Нельга настаўляць, пакуль мы не ведаем праўды, бо нельга грунтавацца на здагадках. Нават тады, калі мы ўжо ведаем праўду, мы не павінны настаўляць, пакуль не злучым яе з любоўю. Толькі любоў трапляе ў сэрца, а праўда, не спалучаная з любоўю, не паходзіць з сапраўднай любові. Больш дабра прынясе адно лагоднае слова, што плыве з любові, чым тысяча слоў без любові.

Непажадана перасцерагаць адразу пасля правіны, таму што тады над чалавекам яшчэ валадараць эмоцыі. З-за гэтага нельга дастукацца ані да яго розуму, ані да сэрца. Не трэба пачынаць з чытання натацый, гэта, вядома, адштурхоўвае. Варта звярнуць увагу на добрыя якасці чалавека, мажліва, за штосьці яго пахваліць. І толькі пасля выказацца адносна таго, на што бліжняму неабходна звярнуць сваю ўвагу.

Настаўляць трэба спакойна, без раздражнёнасці. Непажадана рабіць гэта пры людзях: папярэджанне можа выклікаць яшчэ большае зло. Лепш пагаварыць з чалавекам сам-насам. І не забываць галоўнае: настаўленне павінна здзяйсняцца не з пазіцыі кагосьці лепшага альбо больш разумнага, а з пазіцыі асобы, якая таксама знаходзіцца на шляху развіцця. Памятайце, “калі хто з вас збочыў са шляху праўды, а нехта вярнуў яго, няхай ведае: хто вярнуў грэшніка з аблуднага шляху яго, збавіць душу ягоную ад смерці і закрые мноства грахоў” (Як 5, 19–20).

***Ангеліна Пакачайла***



**Кс. Ян Раманоўскі**

*Настаўляць адзін аднаго могуць муж і жонка. Сужэнства павінна духоўна ўдасканальвацца, а хрысціяне як раз пакліканы да таго, каб дапамагаць адзін аднаму развівацца. Бацькі могуць настаўляць сваіх дзяцей. Узрост не мае ніякага значэння, калі гаворка ідзе пра ўчынкі, якія супярэчаць маральным нормам. Кожны з нас можа настаўляць сваіх сяброў, калег па працы, а таксама кожнага чалавека, які робіць нешта, што нязгодна з Божымі наказамі. Гэтаму нас вучыць Езус, бо кожны чалавек аднолькава важны для Бога.*

**5 прычын, каб здзейсніць учынак міласэрнасці:**

1. *Мы адказныя адзін за аднаго перад Богам.*
2. *Калі рэагуем на грэх бліжняга маўчаннем, то міжвольна саўдзельнічаем у ім.*
3. *Чалавек, да якога звяртаемся, можа не ведаць пра грэх і яго наступствы.*
4. *Настаўленне хоць і прымаецца неахвотна, можа прывесці да станоўчага выніку.*
5. *Добрая парада ў сілах узмацніць голас сумлення чалавека і спыніць яго ад здзяйснення граху.*

# ЯК ВЫМАЛІЦЬ ЖЫЦЦЁ ДЗЕЦЯМ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў НЕБЯСПЕЦЫ АБОРТУ

працяг са с. 1

## ШТО ТАКОЕ ДУХОЎНАЕ ЎСЫНАЎЛЕННЕ

Духоўнае ўсынаўленне – гэта прыняцце на сябе абавязку кожны дзень на працягу дзевяці месяцаў маліцца за зачатае дзіця, якое знаходзіцца ў небяспецы аборту. Яно палягае на штодзённым адгаворванні дзясятка Ружанца разам з малітвай у інтэнцыі зачатага дзіцяці. Чалавек ахінае малітвай толькі адно дзіця, якое вядома толькі Богу. Да малітвы можна далучыць адвольна выбраныя дадатковыя пастановы, напрыклад, частую споведзь, святую Камунію, адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту, чытанне Бібліі, дапамогу патрабуючым асобам ці дадатковыя малітвы.

Звычайна абавязак духоўнага ўсынаўлення прымаецца ва ўрачыстасць Звеставання Пана, і тады ён трывае да Божага Нараджэння. Але пастанову можна прыняць і ў любы іншы час, урачыста склаўшы прысягу на святой Імшы (пасля прачытання Евангелля), ці, калі няма ўмоў, каб скласці ўрачыстыя абяцанні ў касцёле, індывідуальна ў адвольнае свята Маці Божай перад крыжам або святым абразом. Асоба, якая складвае прысягу, становіцца духоўным бацькам ці маці “свайго” зачатага дзіцяці на працягу дзевяці месяцаў. Духоўнае ўсынаўленне не можа быць прынята адзін раз, але можа таксама прымацца цыклічна кожныя 9 месяцаў (аднак заўсёды пасля выканання папярэдніх абавязацельстваў). Кожнае новае духоўнае ўсынаўленне павінна быць папярэджана новай прысягай.

## ХТО МОЖА РАСПАЧАЦЬ ДУХОЎНАЕ ЎСЫНАЎЛЕННЕ

Духоўнае ўсынаўленне можа распачаць кожны – свецкая і кансэкраваная асоба, мужчына, жанчына, чалавек у любым узросце. Толькі дзеці прымаюць яго пад апекай бацькоў.

Асоба, якая прымае духоўнае ўсынаўленне, здзяйсняе пачэсны акт ахвярапрынашэння. Яна абараняе жыццё дзіцяці, хоць ніколі яго не ўбачыць, не прытуліць, не прыцісне да сэрца. Прамаўляючы словы малітвы, чалавек таксама просіць Езуса, каб бацькі змянілі свае адносіны да дзіцяці і зразумелі, што сям’я з’яўляецца незамянімай супольнасцю, але яна здзейсніць сваю ролю толькі тады, калі будзе пабудавана на ўзаемнай любові. Вельмі важна, каб духоўнае ўсынаўленне прынялі, у першую чаргу, маладыя людзі – вучні, студэнты, маладыя сужэнствы. Калі яны складуць ахвяру малітвы дзеля выратавання ад аборту аднаго невядомага ім немаўляткі, то не дапусцяць смерці ўласнага зачатага дзіцяці.

***“Нам неабходна вялікая малітва за жыццё, якая б праціанала ўвесь свет”.***

Гэтыя словы, прамоўленыя св. Янам Паўлам II у энцыкліцы “Evangelium vitae” не губляюць сёння сваёй актуальнасці. У сучасным свеце размовы пра аборт як пра забойства чалавека для многіх нязручныя, таму яго прыраўніваюць да звычайнай медыцынскай працэдуры. Але ж гэтая неспалучаная з сумленнем гэтак званая аперацыя нікога не ратуе, а наадварот – пазбаўляе жыцця тысячы дзяцей, яднае ў сабе мноства асабістых адзінокіх трагедый.

Важна, што ўсё больш людзей прагнуць змагацца за жыццё нявінных зачатых дзяцей, якія самі не здольны пастаяць за сваё месца ў свеце, за права на жыццё і на любоў. Тыя, хто прыняў духоўнае ўсынаўленне, не ведаюць ні імя дзіцяці, ні колеру яго скуры, ні таго, хто з яго вырасце… Яны проста адкрываюць над ім парасон сваёй малітвы і просяць аб ацаленні яго жыцця, таму што клопат пра дзіця яшчэ да яго нараджэння з’яўляецца першай і асноўнай праверкай адносін чалавека да чалавека.

***Кінга Красіцкая***

**Езу**
**Ты гэтым займіся!**

## Малітва за ненароджанае дзіця

**Пане Езу, праз заступніцтва Марыі, Тваёй Маці, якая нарадзіла Цябе з любоўю, а таксама праз заступніцтва св. Юзафа, чалавека даверу, які апекаваўся Табой пасля нараджэння, прашу Цябе ў інтэнцыі гэтага ненароджанага дзіцяці, якое знаходзіцца ў небяспецы аборту. Прашу, дай яго бацькам любоў і адвагу, каб яны пакінулі свайму дзіцяці жыццё, якое Ты сам яму прадвызначыў.** *Амэн.*

# ФОРМУЛА АБЯЦАННЯ ДУХОЎНАГА ЎСЫНАЎЛЕННЯ

Найсвяцейшая Панна, Багародзіца Марыя, усе Анёлы і Святыя, кіруемы(ая) жаданнем несці дапамогу ў абарону ненароджаных, (я, ………………) моцна пастанаўляю і абяцаю, што ад сённяшняга дня я духоўна ўсынаўляю адно дзіця, імя якога вядома Богу, каб на працягу дзевяці месяцаў маліцца аб уратаванні яго жыцця, а таксама аб справядлівым і дабрадзейным жыцці пасля нараджэння.

***Абяцаю:***

- *прамаўляць штодзённую малітву ў інтэнцыі ненароджанага;*
- *штодзённа маліцца адной таямніцай Ружанца;*
- *прыняць апроч гэтага (неабавязкова) пастановы.*

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

## Папа Францішак



*Кожны з нас, гледзячы на сваё жыццё добрым позіркам Бога, можа ўзгадаць у памяці, як Пан аказаў нам міласэрнасць, адкрыць, што Ён быў нашмат больш міласэрны, чым мы думалі, заахвочваючы сябе папрасіць у Яго зрабіць яшчэ адзін крок, каб у будучым Ён быў яшчэ больш міласэрным: “Пакажы нам, Пане, сваю ласкавасць” (Пс 85, 8). Гэты парадаксальны спосаб малітвы да Бога, з кожным разам яшчэ больш міласэрнага, дапамагае разбіць тыя вузкія сістэмы, у якіх мы шматразова складваем незвычайную шчодрасць Яго Сэрца. Добра, каб мы выйшлі з нашых абмежаванняў, таму што ўласцівасцю Божага сэрца з’яўляецца тое, што яно багата на міласэрнасць, якая выходзіць з берагоў і разлівае Яго ласкавасць так, што яе заўсёды зашмат, таму што Пан жадае, каб лепш штосьці прапала, чым каб не хапіла адной кроплі, хоча, каб лепш многія зярняты склявалі птушкі, чым каб глебе не хапіла хаця б аднаго зярнятка, таму што кожнае з іх можа прынесці шчодры плён: у трыццаць, шэсцьдзясят і нават у сто разоў больш.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас св. Імшы Хрызма*

## Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Хрыстос кажа нам: “Памятайце аб тым, што Я вам учыніў, і адначасова паступайце гэтак жа ў памяць пра Мяне”. Перайманне Хрыста распачынаецца ў момант бескарыслівага служэння, чыніць тое, чаго іншыя не хочуць або не могуць.*

*Таму мы павінны спытаць сябе саміх: “Што мы ўчынілі патрабуючым і колькі ног абмылі?”. Калі мы хочам убачыць, як выглядае Хрыстос, то павінны шукаць Яго аблічча не ў кнігах, фатаграфіях, кіно, тэлепраграмах, а ў служэнні бліжнім. Менавіта там мы ўбачым сапраўднае аблічча Хрыста.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас св. Імшы Вячэры Пана*

## Кс. бп Алег Буткевіч



*Каб прыпадобніцца да Хрыста, а разам з гэтым і пераступіць праз саміх сябе, адрачыся ад таго, што ёсць толькі нашае, трэба каб кожны з нас перастаў прэтэндаваць на асабістае жыццё, але аддаваў яго ў распараджэнне кагосьці іншага – Хрыста. Каб не пыталі: што буду з гэтага мець?*

*Нельга быць крыху веруючым. Калі ты па-сапраўднаму ідзеш за Хрыстом, то табе прыйдзецца ісці з Ім на Галгофу. На гэтым усё трымаецца. Гэта і ёсць вузкая дарога. Зерне павінна загінуць, каб даць плён. А людзі забываюць пра гэта.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас св. Імшы Хрызма*




◆ *Пасля ўрачыстай пасхальнай Імшы і благаслаўлення "Urbi et Orbi" ("горада і свету") тысячы дэкаратыўных раслін, квітнеючыя дрэвы, цюльпаны і іншыя кветкі былі высаджаны ў Ватыканскіх садах, а таксама вакол іншых устаноў і калегій Апостальскай Сталіцы. Ініцыятыва, што стала традыцыйнай, мае на мэце прыцягнуць увагу да клопату пра стварэнне. На працягу апошніх 15 гадоў за дызайн "ватыканскага Вялікадня" адказвае галандскі фларыст Шарль ван дэр Вут. У наступным годзе яго пераемнікам стане Поль Дэкерс, таксама галандзец.*

◆ *Папа Францішак абвясціў афіцыйную дату кананізацыі Маці Тэрэзы – 4 верасня. Менавіта ў гэты дзень свой юбілей у Рыме з нагоды Года міласэрнасці адсвяткуюць працаўнікі дабрачынных арганізацый, валанцёры. Кангрэгацыяй па справах кананізацыі для даследавання было абрана выздараўленне жыхара Бразіліі, якое немагчыма растлумачыць з медыцынскага пункту гледжання. Пасля адданай малітвы да Маці Тэрэзы мужчына быў аздароўлены ад пухліны, якая ўжо займала значную частку яго мозгу.*

◆ *Кларэцін айцец прафесар Яцэк Кіціньскі прыняў у вроцлаўскай катэдры біскупскую сакру з рук арцыбіскупа Юзафа Купнага. Так ён стаў 62-ім дапаможным біскупам у тысячагадовай гісторыі Вроцлаўскай дыяцэзіі і 11-ым пасля II Сусветнай вайны. Арцыбіскуп Мар'ян Галэмбеўскі, мітрапаліт-сеньёр Вроцлаўскай дыяцэзіі, адзначыў, што вернікі сёння чакаюць ад біскупа, каб ён быў для іх бацькам, братам, правадыром і сведкам веры ў Езуса Хрыста. "Цябе чакае цяжкая праца, але адначасова ўдзячная і высакародная", – сказаў новаму біскупу арцыбіскуп Галэмбеўскі.*

◆ *19 сакавіка пад кракаўскім "Акном жыцця" адзначылі 10-ю гадавіну яго ўзнікнення. На працягу гэтага часу на тэрыторыі Польшчы ўзнікла 58 "Акон жыцця". Гэтая ініцыятыва дазволіла выратаваць амаль 100 дзяцей па ўсёй краіне. Як паведаміла галоўны камісар Кацярына Падло з прэс-службы ваяводскага камендантa паліцыі ў Кракаве, на працягу апошніх трох гадоў у Малапольскім ваяводстве не зарэгістравана ніводнага выпадку забойства дзяцей. Ва ўсёй Польшчы такіх здарэнняў у 2000 г. было 47, а ў 2014 г. – 4.*

◆ *Ксёндз, які выратаваў ад разні 1500 мусульман у Цэнтральна-Афрыканскай Рэспубліцы, стаў адным з галоўных кандыдатаў на атрыманне прэміі "Аўрора" за гуманізм (Aurora Prize for Awakening Humanity). Яе прысуджаюць тым, хто "рызыкуе ўласным жыццём дзеля выратавання жыцця іншым". Айцец Бернард Кінві з ордэна каміліянцаў на працягу некалькіх месяцаў у сваім шпіталі ў Басемптэлі даваў прытулак мусульманам, якія ўцякалі ад баевікоў Антыбалака, што змагаюцца з мусульманскімі паўстанцамі. Пасля гэтага дапамог уцекачам перайсці мяжу з Камерунам.*

*credo-ua.org; gosc.pl; niedziela.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# КРЫЖОВЫ ШЛЯХ У ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

**У Вялікую сераду Крыжовы шлях вуліцамі горада адбыўся ў Іўі.** Пакаяннае набажэнства працягвалася каля дзвюх гадзін і скончылася позна вечарам. У ім прыняло ўдзел каля тысячы чалавек. Наперадзе шэсця знаходзіўся крыж, які па чарзе асобна неслі мужчыны, а таксама міністранты, прадстаўнікі касцёльных рухаў, службы аховы здароўя, сацыяльных службаў, настаўнікі, супрацоўнікі выканкама. "Крыжовы шлях вуліцамі Іўя ў Вялікую сераду – ужо традыцыя. Радуе, што ў ім прымае ўдзел столькі людзей", – заўважыў пробашч парафіі святых апосталаў Пятра і Паўла ксёндз Ян Гавецкі.



**У пятніцу перад Пальмовай нядзеляй Крыжовы шлях адбыўся ў Сапоцкіне.** Вернікі разам са сваім пробашчам ксяндзом Антоніем Абухоўскім прайшлі вуліцамі мястэчка, разважаючы над мукай і смерцю Езуса Хрыста. Такі крыжовы шлях ужо стаў традыцыяй у парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Язафата Кунцэвіча. Падчас набажэнства да прысутных даносілася думка, што штодзённыя змаганні, радасці і смутак, паражэнні і перамогі толькі тады прывядуць да неба, калі будуць вынікаць з любові. А Бог, які ёсць Любоў, годны таго, каб любіць Яго больш за ўсё, а ў Ім – кожнага чалавека.



**Традыцыйна ў апошнюю суботу перад Вялікім тыднем Крыжовы шлях прайшоў вуліцамі Гродна.** Шосты год запар вернікі такім чынам ушанавалі пакуты Езуса Хрыста. Сёлета ад стацыі ад стацыі крыж па чарзе неслі парафіяне з усіх касцёлаў горада Гродна, а таксама клерыкі і ўдзельнікі рэкалекцый ВДС, студэнты з Афрыкі і моладзь з душпастарства "OPEN". Падчас пакутнага шляху прысутныя разважалі аб найбольш характэрных заганах сучаснага чалавека: абыякавасці, крызісе ўдзячнасці, пошуку выгады ў любові да Бога і чалавека, непамернай ганарыстасці і непавазе да чалавечай годнасці.



**У гэты ж дзень Крыжовы шлях адбыўся і ў парафіі святога Міхала Арханёла ў Смаргоні.** Моцныя ўражанні напаўнялі не толькі сэрцы ўдзельнікаў набажэнства, але і сэрцы тых, хто выпадкова сустракаўся на іх шляху. Людзі спыняліся – і звычайная цікавасць спантанна змянялася глыбокім роздумам. Да духоўных разважанняў далучаліся і фізічныя, бо ўсе вернікі парафіі мелі магчымасць па чарзе несці крыж: моладзь, дзеці, жанчыны, мужчыны, духавенства. Напрыканцы пакаяннага набажэнства ўдзельнікаў напаўняла ўпэўненасць, што гэты шлях не заканчваецца на крыжы, але ідзе далей, да вялікай радасці Божага Валадарства.

**У Вербную нядзелю ў Вялікай Бераставіцы адбыўся інсцэніраваны Крыжовы шлях.** Некалькі соцень вернікаў – не толькі з гарадскога пасёлка, але і з суседніх парафій – з крыжамі ў руках і запаленымі свечкамі прайшлі пакутны шлях, перажываючы евангельскія сцэны апошніх момантаў зямнога жыцця Езуса Хрыста. У набажэнстве прыняў удзел дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Іерарх адзначыў, што пакутныя сцэны бічавання, укрыжавання і смерці Хрыста паказваюцца не для таго, каб напалохаць людзей, а каб дапамагчы ўсвядоміць, наколькі вялікай з'яўляецца Божая любоў і цана чалавечага збаўлення.



***Паводле grodnensis.by і catholic.by***




***Дарослыя ведаюць, як па канонах трэба перажываць Вялікі пост: так, каб не толькі цела, але і душа ачышчалася, думкі напаўняліся дабрынёй, спагадай да бліжняга і са слоў ператвараліся ў справы. А як маленькаму чалавеку растлумачыць, што такое пост і Крыжовы шлях? У адну з пятніц пра пакуты Хрыста разважалі дзеці з парафіі святога Юрыя ў Варнянах. Разам з катэхеткай Жанай Радзевіч і актыўнай парафіянкай Наталляй Калпак хлопчыкі і дзяўчынкі падрыхтавалі вершаваны Крыжовы шлях.***

*...У вячэрняй цемры патанаў касцёл. Трапяткія агеньчыкі свечак, якія трымалі ў руках дзеці, асвятлялі абразы і адбіваліся ў вітражных вокнах святыні. Да трох крыжоў, што ўсталявалі напачатку Вялікага посту ля выявы Езуса, праз шэрую колкую гару вяла дарога з чырвоных слядкоў – чатырнаццаці стацый, на працягу якіх Хрыстос нёс свой непамерна цяжкі ад людской здрады крыж.*

*У гэты дзень Збаўцу яго дапамагалі несці дзеці. Сваімі шчырымі словамі і малітвамі яны разважалі пра несправядлівасць, калі Езуса асудзілі на смерць. Задумваліся над тым, што такое адзінота, калі Хрыстос неаднойчы падаў пад цяжарам крыжа. Засяроджваліся на навяртанні, калі Вераніка сваёй хусцінкай абцірала твар змучанага Сына Божага. Імкнуліся ўсвядоміць боль ад здзеку, калі Езусу надзелі на галаву цярновы вянок...*

*I чатырнаццаць чырвоных слядоў, якія дзеці пад кіраўніцтвам катэхетак рабілі напярэдадні Вялікага посту, набылі новы сэнс. Гэтыя сорак дзён дадзены нам не толькі для таго, каб стаць лепшымі фізічна і духоўна, але і паменшыць колькасць слядоў, якія так расцягнулі наш шлях да Бога.*

*Словы малітвы на заканчэнне, якія чыталі ўсе разам, сталі дэвізам і майго Крыжовага шляху, майго духоўнага адкрыцця, якое адбылося дзякуючы дзецям.*

***Алена Ганулiч***

---

***Як часта задумваюся над тым, колькі часу мы жылі ў цемры, без Божай радасці і ласкі. Прычым адчувалі сябе бяспечна, не турбаваліся аб плёне духоўнага жыцця. Канешне, тое, што было закладзена ў душу бацькамі, прарастала. Але гэтыя парасткі былі хілыя і кволыя, бо мы не маглі наведваць святыню, чытаць духоўную літаратуру, газеты, часопісы... Хіба ж можна было так глыбока перажываць перыяд Вялікага посту, як цяпер? Прымаць удзел у набажэнствах Крыжовага шляху і Песняў жальбы? Сёння гэтыя моманты асаблівым чынам кранаюць маю душу і даюць нагоду для разважанняў над тым, якое цярпенне панёс Хрыстос, не шкадуючы сябе для збаўлення чалавецтва.***

*Як радуецца сэрца, калі бачу, што святыня напоўнена людзьмі, якія шукаюць ратунку ў сустрэчы з пакутуючым міласэрным Хрыстом. У нашым санктуарыі Езуса Журботнага ў Росі гэта асабліва бачна. З розных куткоў ідуць і едуць людзі, каб з дапамогай Божых пасярэднікаў – цудоўных ксяндзоў Чэслава Паўлюкевіча і Андрэя Радзевіча – дакрануцца да Божай ласкі і адкінуць усё тое, што замінае быць бліжэй да Бога.*

*На рэкалекцыі ў Рось прыязджаюць вядомыя святары з розных краін. Імкнуся не прапусціць ніводнай хвіліны духоўных практыкаванняў, улавіць кожную думку, якая закрадаецца глыбока ў сэрца і ўплывае на жыццё.*

*Успамінаюцца рэкалекцыі падчас Адвэнту, якія праводзіў ксёндз Ян Рэчэк і сястра Станіслава. Тады я атрымала вялікую міласць ад Езуса, які ў час адарацыі дакрануўся да мяне. Я яскрава адчула Яго дотык. Мела нясцерпны боль у каленях. Збіраючыся на рэкалекцыі, прасіла Бога, каб вытрымаць хаця б некалькі гадзін. Але ў Яго былі іншыя планы. Калі сястра сказала: "Алена, Езус аздараўляе твае калені!", – сэрца ў мяне забілася так, што здавалася, зараз выскачыць з грудзей. Ногі ахапіў жыватворны агонь, душа напоўнілася ласкай міласэрнасці. Хацелася ўзляцець, крычаць ад радасці: "Хвала Табе, Божа!". Да гэтай пары ў каленях няма болю. Цуд Божы!*

*Плённымі былі і велікапосныя рэкалекцыі, якія праводзіў ксёндз Андрэй Шут. Святар з адкрытай, багатай душой, напоўненай Божымі ласкамі. Ён так ясна даводзіў да людзей думку, што толькі насычанае малітвамі і добрымі ўчынкамі сэрца, якое ачысціцца ад іржы і бруду, як рыпучыя дзверы, можа адкрыцца на Езуса, прыняць Яго і адчуць смак жыцця з Ім. Кожную хвіліну посту намагалася быць разам з Хрыстом. Не забывалася і пра тры важныя аспекты: малітву, пост і міласціну. Разам з ксяндзамі Чэславам Паўлюкевічам і Андрэем Радзевічам рыхтавалі свае душы да свята Уваскрасення.*

***Алена Блажэеўская***




*Хвала Хрысту!*

*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі "На скрыжаванні". У сённяшнім нумары мы з Вамі паразважаем пра ўсходы на духоўнай ніве, хрысціянскі ўраджай і Божыя шалі. Задумаемся, праз якія выпрабаванні праходзіць душа і на што спадзявацца пры ўваскрасенні з мёртвых.*

*Наперад з Богам!*



*Ангеліна Пакачайла*

# Узараць глебу душы

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: "Валадарства Нябеснае падобнае да чалавека, які пасеяў добрае насенне на полі сваім" (Мц 13, 24)**

Валадарствам Нябесным называецца дзеянне ласкі Духа Святога ў чалавеку, які паверыў у Бога і жыве паводле Яго наказаў. Такім чынам, Валадарства не прыходзіць нейк знешне, а здабываецца ўнутры чалавека: праз "добрае насенне" Бог знаходзіцца ў душы, якая Яго любіць.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб земляробы атрымлівалі належную ўзнагароду за сваю каштоўную працу**

Здаўна земляробства лічылася адной з самых галоўных галін чалавечай дзейнасці. Людзі працавалі на зямлі, каб сабраць добры ўраджай і пракарміць сябе і сваю сям'ю. Падзякуем жа за людзей, якія зараз працуюць на зямлі і забяспечваюць усіх нас прадуктамі жыццядзейнасці.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: духоўнае насенне**

Душа нараджаецца для вечнасці. Але каб яе дасягнуць, душа павінна злучыцца з целам і прайсці на зямлі праз шматлікія выпрабаванні. З гэтай прычыны жыццё чалавека часта нагадвае барацьбу за задавальненне духоўных або цялесных патрэб. Варта памятаць пра найважнейшае і клапаціцца пра тое, што мае прадаўжэнне ў вечнасці.

Папярэдне падрыхтаванае насенне здольна прынесці добры плён. Нездарма кажуць: што пасееш, тое і пажнеш. Час паразважаць: а якое насенне мы засяваем у сваю душу, на што спадзяёмся пры сканчэнні веку і ўваскрасенні з мёртвых?

**МЭТА МЕСЯЦА: зазірнуць у свой унутраны свет**

У эпоху матэрыялізму чалавек усё больш канцэнтруецца на знешнім свеце. З-за гэтага церпіць унутраны, які таксама патрабуе ўвагі. А калі не даглядаць за ўнутранай прыродай, яна можа парасці пустазеллем, там могуць завесціся шкоднікі. І тады ўжо цяжка будзе выратаваць душу, вярнуць яе да таго першапачатковага стану, у якім яна была падорана чалавеку Богам. Давайце зазірнём унутр сябе і вызначым стан сваёй душы. Дарэчы, гэта трэба рабіць рэгулярна.

**СПРАВА МЕСЯЦА: узараць глебу душы**

Як і ў земляробаў ёсць час сяўбы і жніва, так і ў хрысціяніна ёсць адпаведныя перыяды. У абодвух выпадках перш чым нешта пасадзіць, трэба падрыхтаваць глебу – узараць яе, гэтым самым стварыўшы спрыяльныя ўмовы для пасадкі. Як можна ўзараць глебу душы? Ачысціцца і прыступіць да сакрамантаў споведзі і святой Камуніі. Толькі пасля можна высяваць насенне і спадзявацца на багаты ўраджай.

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Жыццё – гэта поле", Анастасія Яроміна**

"Жыццё – гэта поле, ты сам выбіраеш: насенне якое ў яго апускаеш", – сцвярджае выканаўца. І тут жа заклікае памятаць пра тое, што плён будзе пазней, бо "усё на шалі Бог калісьці пакладзе". У песні гучыць запрашэнне ўстаць у цішы перад Богам, каб атрымаць ацаленне і ўбачыць у сваёй душы промень святла і дабра.

**КНІГА МЕСЯЦА: "Як упарадкаваць свой унутраны свет", Гордан Макдональд**




Аўтар кнігі ўпэўнены, што маральнае, духоўнае і фізічнае здароўе хрысціяніна ў поўнай меры залежыць ад стану яго ўнутранага свету. Калі там пануе парадак, спакой і гармонія, то жыццё прыносіць плён любові, радасці і душэўнай раўнавагі. У кнізе разглядаецца матывацыя, розум, веданне. Прапануецца памятка для неарганізаванага чалавека і дапаможнік па правільным выкарыстанні часу.

**АСОБА МЕСЯЦА: святы Юрый**



Нарадзіўся ў хрысціянскай сям'і ў другой палове III стагоддзя. Пасля дасягнення паўналецця пайшоў па слядах бацькі, уступіўшы ў рымскую армію. Стаў народным трыбунам і атрымаў тытул графа. Належаў да асабістай аховы імператара Дыяклетыяна, калі той знаходзіўся ў Нікамедыі.

У 303 годзе імператар выдаў указ аб ганеннях на хрысціян на тэрыторыі Імперыі. Юрый пакінуў вайсковую службу і перад імператам аб'явіў сябе хрысціянінам. Раз'юшаны Дыяклетыян загадаў катаваць Юрыя.

Яго забілі (адсеклі галаву) 23 красавіка 304 года. Цела Юрыя было пахавана ў Ліддзе. У хуткім часе хрысціяне пачалі маліцца да яго як да мучаніка.

Літургічны ўспамін у паўсюдным Касцёле – 23 красавіка. Святы Юрый з'яўляецца заступнікам вандроўцаў, салдатаў, кавалёў, бачароў, мастакоў, вязняў, скаўтаў і харцэраў. Сваім заступнікам яго лічаць і земляробы.

Пра святога існуе легенда. У адной мясцовасці цмок зрабіў гняздо. Кожны дзень жыхары ахвяравалі яму авечку, а калі не знаходзілі яе, павінны былі аддаць узамен адну з дзяўчат. Аднойчы тварам да твару з цмокам стаў Юрый, які абараніў сябе знакам крыжа і перамог пачвару. Удзячныя гараджане пакінулі язычніцтва і перайшлі ў хрысціянства.

**Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў красавіку?**

*Св. Францішак (2 красавіка), св. Ізідар (4 красавіка), св. Юлія (8 красавіка), св. Марцін (13 красавіка), св. Анастасія (15 красавіка), св. Роберт (17 красавіка), св. Агнешка (20 красавіка), св. Юрый (23 красавіка), св. Зіта (27 красавіка).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце ў рэдакцыю або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*




# Вялікі тыдзень у Гродне

Апошні тыдзень у Вялікім посце папярэднічае найважнейшаму святу хрысціян – Уваскрасенню Пана. Як і кожны год, ён становіцца перыядам узмацнення аскетызму, посту і рэлігійных практык. Тлумы гродзенскіх вернікаў сабраліся ў касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне, каб урачыста перажыць Пасхальны Трыдыум.














**CatholicNews.by**

***У Вялікі чацвер Святы Айцец абмыў ногі бежанцам***

***Літургія прайшла ў цэнтры для мігрантаў, якія чакаюць атрымання прытулку ў Італіі.***

*Гэтым простым і выразным жэстам Папа хацеў сказаць аб патрэбе належнай увагі да самых слабых, аб тым, што мы пакліканы вярнуць ім годнасць. Святы Айцец заклікаў паглядзець на Пасху вачыма тых, хто перажывае сваю веру ў служэнні асобам, якія носяць на сваім абліччы сляды пакут і насілля.*




***Беларускія ліквідатары аварыі на ЧАЭС сустрэнуцца з папам Францішкам***

***У сустрэчы з Пантыфікам, як чакаецца, прымуць удзел каля 50 ліквідатараў. На аўдыенцыі будуць прысутнічаць таксама іерархі, у ліку якіх беларускі арцыбіскуп.***

*Сустрэча Пантыфіка з ліквідатарамі будзе прымеркавана да 30-годдзя з дня аварыі на ЧАЭС. Папа Францішак не ўпершыню звяртае асаблівую ўвагу на пытанні экалогіі і навакольнага асяроддзя.*

*У сваёй энцыкліцы "Laudato si'", прысвечанай праблемам экалогіі, Папа задаецца пытаннем: "Які свет мы хочам перадаць тым, хто прыйдзе пасля нас, дзецям, якія зараз падрастаюць?". Пасланне Святога Айца з'яўляецца спробай звярнуць увагу вернікаў на гэтую хвалюючую акалічнасць.*




***Пярсцёнак Жаны д'Арк вярнуўся ў Францыю***

***Святая Жана ўзначальвала французскія войскі падчас Стогадовай вайны паміж Францыяй і Англіяй. У самы цяжкі для Францыі час яна змяніла ход вайны на карысць сваёй Радзімы.***

*Грамадства сабрала каля 425 тысяч даляраў, каб выкупіць на англійскім аўкцыёне пярсцёнак, які належаў каталіцкай святой, ваярцы і нацыянальнай гераіні Францыі. Пазалочаны срэбны пярсцёнак мае надпісы "IHS" і "MAR" – "Езус Хрыстус Збаўца" і "Марыя". Яго Жане падарылі бацькі, якія былі заможнымі сялянамі.*

*Інквізітарскі працэс, які адбыўся праз 25 гадоў пасля спалення святой, цалкам апраўдаў Жану і назваў злачынцамі яе суддзяў. У 1909 г. Жанна д'Арк была беатыфікавана, а ў 1920 г. – кананізавана.*

***Кінга Красіцкая***

## Велікодная выстава адкрылася ў Музеі гісторыі рэлігіі

*Падчас адкрыцця экспазіцыі каталіцкі і праваслаўны святары наблізілі прысутным гісторыю пакут і Таямніцу Уваскрасення Езуса Хрыста, які памёр на крыжы дзеля збаўлення людзей і ўваскрос, каб абвясціць, што смерць пераможана, і падарыць надзею на жыццё вечнае ў Валадарстве Нябесным.*

Падобная выстава праводзіцца штогод, але кожны раз змяшчае новыя экспанаты. Гэтым разам экспазіцыя ўзбагацілася такімі элементамі, як комплекс “Крыжовы шлях”, харугвы з XX стагоддзя, комплекс з літургічнымі прадметамі і адзенне, уласцівае святару, які праводзіць шлюбны абрад. На ўзгаданым адзенні змяшчаецца цікавая вышыўка – пелікан, які сваёй крывёю корміць птушанят. У хрысціянстве гэта з'яўляецца сімвалам Эўхарыстыі і ахвярнай любові Хрыста да чалавека. Дадзены экспанат прадаставіў музею гродзенскі касцёл Маці Божай Анёльскай.



## У Лідзе ўпершыню прайшла “Ноч канфесіяналаў”

*Акцыя адбывалася ноччу з Вялікага аўторка на сераду ў касцёле Узвышэння Святога Крыжа. Многія вернікі змаглі перад святам Вялікадня прыступіць да сакраманту пояднання.*

“Ноч канфесіяналаў” ладзілася ў першую чаргу для тых, каму цяжка знайсці час па прычыне працы і абавязкаў, але хто хоча перажыць святы Уваскрасення Пана з вольным ад грахоў сэрцам. Найлепшым водгукам на правядзенне акцыі была вялікая колькасць вернікаў, якія прыйшлі паспавядацца ў цішыні і адасобленасці ад абавязкаў, што не даюць засяродзіцца днём.



## У гродзенскай семінарыі прайшлі рэкалекцыі для міністрантаў

*У гэтым годзе духоўныя практыкаванні правёў прэфект Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне кс. Андрэй Лішко.*

Каля 60 юнакоў сустрэліся на супольнай малітве, каб паразважаць над тэмай “Устану і пайду да майго Айца” (Лк 15, 18).

Удзел у Крыжовым шляху, разважанні над Божым словам, супольная Эўхарыстыя, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, спрыялі паглыбленню і ўмацаванню асабістых адносін маладых людзей з Хрыстом. Рэкалекцыі садзейнічалі адважнаму прыняццю жыццёвага напрамку, прапанаванага ім Богам.



## У Гродне памаліліся ў духу Taizé

*У парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне адбылася малітоўная сустрэча ў духу Taizé. На ёй прысутныя разам з душпастарам айцом Эдуардам Пяцельчыцам разважалі над мукай Пана.*

Каля 40 чалавек прыйшло на сустрэчу, каб памаліцца і па-новаму зірнуць на свае адносіны з Богам. Атмасфера цішыні і паўзмроку спрыяла раскрыццю сэрцаў на голас Усявышняга. У гэты дзень на розных мовах – беларускай, рускай, польскай і італьянскай – гучалі евангельскія чытанні, псалмы, малітвы, разважанні. Напрыканцы спаткання адбылася адарацыя крыжа.

Малітоўныя сустрэчы ў духу Taizé ў гродзенскай парафіі на Дзевятоўцы адбываюцца кожны трэці панядзелак месяца. Запрашаюцца ўсе жадаючыя. Тэлефон для даведак: (+375 33) 325-14-36 – Еанна Сенкель.



## Кардынал Зянон Грахалеўскі наведае Гродна

*Папа Францішак прызначыў кардынала Зянона Грахалеўскага, прэфекта на пенсіі Кангрэгацыі каталіцкай адукацыі, сваім спецыяльным пасланнікам на Нацыянальны эўхарыстычны кангрэс у Беларусі, які будзе праходзіць у Гродне 24–26 мая ў межах падзякі за 25-годдзе існавання Гродзенскай дыяцэзіі.*

Раней гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч звярнуўся да вернікаў і духавенства з пастырскім лістом, у якім нагадаў, што 25-годдзе ўтварэння дыяцэзіі – гэта нагода азірнуцца, ацаніць пройдзены шлях і падсумаваць дасягненні. Падкрэсліваючы, што ў гісторыі каталіцкага Касцёла 25-гадовы прамежак часу не з'яўляецца надта вялікім, іерарх адначасова звярнуў увагу на значныя змены, якія адбыліся ў гады адраджэння Касцёла. Цяпер большасць парафій мае ўласных душпастараў, усё больш свецкіх каталікаў актыўна ўключаецца ў жыццё і місію Касцёла.



## Свята Уваскрасення Пана ў Лідзе

*У шэсць гадзін раніцы званы лідскага фарнага касцёла абвясцілі на ўсе ваколіцы радасную навіну аб Уваскрасенні Езуса Хрыста.*

Не зважаючы на ранні час, у працэсіі прыняла ўдзел вялікая колькасць вернікаў. Рэзурэкцыйную святую Імшу ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

У гаміліі іерарх падкрэсліў, што ўваскрасенне дае матыў для жыцця і надзеі, а “праўда і дабро канчаткова пераможуць, бо іх нельга да канца знішчыць, укрыжаваць”.

Біскуп заахвоціў вернікаў цешыцца “радасцю новага жыцця, якую прадказаў сваім уваскрасеннем Хрыстос”, жыць паводле навукі Евангелля, шукаць таго, што “ў вышынях”, усведамляючы перспектыву вечнага жыцця, якое ўсіх чакае.



## Світанак Уваскрасення Пана ў гродзенскай катэдры

*У велікодную раніцу радасная “Алелюя” ў чарговы раз загучала на вуліцах Гродна. З самага ранку вернікі выйшлі ў горад, каб засведчыць сваю веру і абвясціць усяму свету, што Хрыстос уваскрос, сапраўды ўваскрос.*

Пасля працэсіі ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя адбылася святая Імша пад кіраўніцтвам б-па Аляксандра Кашкевіча. Звяртаючыся да вернікаў з гаміліяй, іерарх сказаў: “Дзякуючы ўваскрасенню Хрыста смерць не знікае, а губляе сваю моц, бо становіцца брамамі, якія вядуць да жыцця. Пасля ўваскрасення грабніца Езуса не знікла, а стала пустая, як знак, як запрашэнне, каб мы туды ўвайшлі, убачылі адкінутыя палотны і паверылі, што Хрыстос жыве”.

У радасны час світанку Уваскрасення Пана кс. бп Аляксандр Кашкевіч запэўніў у сваёй блізкасці і малітве ўсіх вернікаў дыяцэзіі, а асабліва хворых, церпячых, пажылых людзей і ўсіх, хто, прыціснуты крыжам штодзённасці, церпіць разам з Хрыстом.



## Шаноўныя браты ў святарстве, кансэкраваныя асобы! Умілаваныя ў Хрысце Пану сёстры і браты!



Перажываючы Юбілейны год міласэрнасці, абвешчаны Святым Айцом Францішкам, ведаем, што Божая міласэрнасць найбольш поўна аб'явілася праз таямніцу Увасаблення Божага Сына. Святы Год, распачаты 8 снежня, ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, паказвае “на спосаб дзеяння Бога ад пачатку нашай гісторыі. Пасля граху Адама і Евы Бог не хацеў пакідаць чалавецтва сам-насам, каб яно стала здабычаю зла. Таму Ён пастанавіў і пажадаў, каб Марыя, святая і беззаганная ў любові (параўн. Эф 1, 4), стала Маці Адкупіцеля чалавека” (була Misericordiae Vultus, 3).

Угледаючыся ў Марыю, мы бачым, што міласэрнасць мае таксама чалавечае вымярэнне. Так што паўтарайма за Святым Айцом Францішкам: “Міласэрнасць – гэта асноўны закон, які жыве ў сэрцы кожнага чалавека, калі ён глядзіць шчырымі вачыма на свайго брата, якога сустракае на жыццёвым шляху. Міласэрнасць – гэта шлях, які злучае Бога з чалавекам, бо адкрывае сэрца на надзею, што мы будзем умілаваныя назаўсёды, нягледзячы на недасканаласць, якой з'яўляецца грэх” (була Misericordiae Vultus, 2).

[...] Перажываючы Юбілейны Год Міласэрнасці, удзельнічаючы ў радасці Звеставання Пана, святкуючы дзень “святасці жыцця”, накіроўваем нашы думкі да ўсіх тых, хто перажывае сужэнскі і бацькоўскі крызіс. Бачым тых маці і бацькаў, якія вагаюцца, ці варта прысвяціць сваю будучыню любові да новага жыцця. Свет прапаноўвае ім больш шыкоўнае жыццё, без абавязкаў, без адказнасці за сябе і за сусвет. Гэты свет падказвае ім, што чалавек, які знаходзіцца ва ўлонні маці, – гэта яшчэ не чалавек, дык чаго тады нішчыць жыццё сабе і партнёру пасля нараджэння дзіцяці? Аднак жа варта паглядзець на гэтыя цяжкасці па-іншаму, варта пачаць змаганне за крыху іншы свет, у якім кожная асоба “на вагу золата”, таму што з'яўляецца Божым дарам.

***Фрагмент Пастырскага ліста Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі на ўрачыстасць Звеставання Пана***

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### *У якіх набажэнствах Вы прымеце ўдзел падчас Вялікага тыдня і Велікодных свят?*




*Падчас перажывання Пасхальнага Трыдыуму нас цікавіла, у якіх набажэнствах часцей прымае ўдзел большасць з Вас. Вынікі апытання паказалі, што вернікі стараюцца ўдзельнічаць у цэлым Пасхальным Трыдыуме. Ад Вялікага чацвярга да Нядзелі Уваскрасення Пана мы прыходзім у парафіяльныя святыні, каб перажыць найбольшае хрысціянскае свята – Вялікдзень.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*У гэтыя дні большасць з нас магла назіраць мноства людзей у святынях. Распачынаючы ад Вялікага чацвярга, мы збіраліся на супольнай малітве, каб разам з Хрыстом праз крыж і муку перажыць уваскрасенне. Рэзультаты апытання мяне зусім не здзіўляюць. Нашыя чытачы разумеюць важнасць гэтых вялікіх дзён. Варта было б дастукацца да сэрцаў тых людзей, якія ў Вялікую суботу прыходзілі ў касцёлы, каб асвяціць стравы на велікодны стол, але не прысутнічалі на велікоднай малітве. Кожную гадзіну або паўгадзіны касцёлы былі напоўнены людзьмі, вялікая колькасць якіх прыйшла толькі асвяціць стравы. Таму кожны з нас мае заданне – абвяшчаць Добрую Навіну менавіта такім “святочным” каталікам.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**4 красавіка 1961 г.** – кс. Стэфан Гародка, *проб. Белагруда;*
**6 красавіка 1968 г.** – кс. Генрых Герасімовіч, *проб. Градаўшчына.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзу Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму, Алегу Буткевічу, Казіміру Велікасельцу Юрыю Касабуцкаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні. Няхай радасць Уваскрасення напаўняе Вашыя сэрцы супакоем і любоўю і робіць Вас шчырымі апосталамі Праўды. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за працу на карысць нашай краіны, абвяшчэнне Божага слова і клопат аб кожным чалавеку.

*Апостальства вечнай малітвы за святароў "Маргарытка" з пар. Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзу Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму, Юрыю Касабуцкаму, Антонію Дзям'янку, паважаным Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму, Айцу Казіміру Жылісу, Ксяндзам Валерыю Спірыдону, Юрыю Ясевічу, Паўлу Безляповічу, Валерыю Быкоўскаму, Аляксандру Мацкевічу, Віталію Дабраловічу, усім Ксяндзам Гродзенскай дыяцэзіі, усім Клерыкам Гродзенскай ВДС**

у цудоўны дзень Велікодных свят складаем шчырыя віншаванні і словы падзякі. Вы – апосталы Божыя і заўсёды знойдзеце спосаб накіраваць вернікаў на шлях праўды. Дзякуючы Вам, людзі становяцца больш добрымі і памяркоўнымі адзін да аднаго, імкнуцца загладзіць свае грахі добрымі ўчынкамі. Дай Бог Вам здароўя і доўгіх гадоў жыцця! Няхай Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі, а святыя Заступнікі заўсёды дапамагаюць.

*Апостальства "Маргарытка" з гродзенскай Фары*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Беланоссу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: няхай уваскрослы Хрыстос, Збаўца свету, адорвае Вас сваімі ласкамі, сапраўднай радасцю і супакоем, Найсвяцейшая Маці няхай моцна прытуляе да сябе і напаўняе сэрца любоўю, а Святы Дух няхай шчодра спасылае на Вас свае дары.

*Удзячныя парафіяне з Макараўцаў*

**Паважаным Ксяндзам Вячаславу Матукевічу, Яраславу Грынашкевічу, Юзафу Багдзевічу і Паўлу Беланосу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі, людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Маці Божай дадаюць сіл і цярплівасці.

*Бацькі кс. Вячаслава Матукевіча*

**Паважаным Ксяндзам Казіміру Мураву і Алегу Жураўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Ваш шлях заўсёды асвячае Найсвяцейшая Маці, добры Езус трымае Вас каля свайго сэрца, адорвае сваім блаславеннем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух будзе бясконца шчодрым на свае дары. Жадаем таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, дабра, радасці, цеплыні і поспехаў у душпастарскай працы.

*З удзячнасцю былыя парафіяне*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Антонію Філіпчыку, Ксяндзам Дзмітрыю Леўчыку і Юрыю Садоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, спакойных дзён у Божай ласцы, людской дабрыні. Няхай Дух Святы асвячае кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Хрыстос заўсёды будзе Сябрам, а служэнне Богу і людзям прыносіць задавальненне і шчодры плён.

*Парафіяльны хор, Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі і ўдзячныя парафіяне*

**Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды Дня Святара і свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў, апекі Панны Марыі, блаславлення ад уваскрослага Збаўцы і моцнага здароўя на кожны дзень жыцця.

*Парафіяльны хор і ўдзячныя вернікі з пар. св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**

з нагоды Імянін жадаем шмат Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, людской дабрыні, поспеху і шмат радасці. Няхай міласэрны Бог блаславіць кожны дзень Вашай паслугі.

*Парафіяльная рада і вернікі з пар. Беззаганнага Зачацця НПМ у Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Юзафу Трубовічу, Аляксандру Раманоўскаму, Антонію Адамовічу і Андрэю Зайко**

з нагоды Велікодных свят шчыра жадаем шмат Божых ласкаў. Няхай Уваскрослы Хрыстос адорвае радасцю і спакоем, а Маці Божая нястомна апекуецца Вамі.

*Парафіяльная рада і вернікі з пар. Беззаганнага Зачацця НПМ у Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Чургану**

з нагоды Велікодных свят перасылаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, радасных дзён і ўсіх ласкаў ад Уваскрослага Хрыста. Няхай Маці Божая заўсёды чувае над Вамі, а Анёл-ахоўнік апекуецца ў цяжкія хвіліны жыцця.

*Ружа Жывога Ружанца МБ Тракельскай*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Саковічу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем самыя найлепшыя пажаданні. Няхай Бог спашле на Вас усе неабходныя ласкі, Маці Божая ахоўвае і апекуецца Вамі ў кожную хвіліну жыцця, а Святы Дух нястомна адорвае сваімі дарамі. Дзякуем за добрае сэрца і самаадданую працу.

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з Карэлічаў і Варончы*

**Паважаным Айцу Пробашчу Яну Этэлю, Айцам Эдуарду Сінкевічу і Аляксандру Фядотаву, а таксама Ксяндзу Паўлу Эйсманту**

з нагоды Велікодных свят перасылаем мноства найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у душпастарскай працы, нязгаснай любові і веры, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Бог блаславіць Вас заўсёды і ўсюды і ўзнагароджвае за нястомную працу і малітву.

*"Легіён Марыі", Касцёльны камітэт і вернікі з пар. Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Эдуарду Сінкевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, сілы ў штодзённай працы, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама шчодрых Божых ласкаў. Няхай Ваш святарскі шлях будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці!

*"Легіён Марыі", Касцёльны камітэт і вернікі з пар. Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захараўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем найлепшыя пажаданні. Няхай уваскрослы Хрыстос дапамагае Вам у штодзённай паслузе, дадаючы сілы і моцы ў здзяйсненні ўсіх добрых намераў, жыццё няхай плыве ў супакоі, а праца прыносіць шчодры плён. Няхай Бог адорвае Вас моцным здароўем на доўгія гады, а Ваша вера, шчырасць і самаадданасць будуць добрым прыкладам для пераймання.

*Вернікі з пар. Раготна*

**Паважаным Айцам Антонію Пажэцкаму і Яўгену Голубу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем мноства сардэчных пажаданняў здароўя, душэўнага супакою і добразычлівых людзей побач. Няхай уваскрослы Хрыстос узнагародзіць Вас сваімі ласкамі.

*Рыцарства Беззаганнай*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаю моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, а таксама людской дабрыні. Дзякую Вам за працу ў нашай парафіі, за цярплівасць, прыгожыя і мудрыя казанні, клопат пра людзей і чулае сэрца. Няхай уваскрослы Хрыстос Вас блаславіць.

*З малітвай парафіянка*

**Паважаным Айцам Вітольду Жэльветра і Віктару Барысевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат дзён у Божай ласцы і дабрыні ад людзей. Няхай Святы Дух распаўсюджвае сваё святло на кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Хрыстос заўсёды будзе Вам Сябрам у служэбе Богу і людзям.

*III Ордэн св. Францішка з Ліпнішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рэйшалю, Сястры Ганне і арганістцы Ганне**

з нагоды Велікодных свят шчыра жадаем шмат здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, аптымізму, нястомнай энергіі ў працы, Божага блаславлення на кожны дзень і сталай апекі Маці Божай. Няхай праца на карысць Богу і людзям прыносіць добры плён. Дзякуем за кожную хвіліну радасці, якую Вы дорыце нам, за добрыя і чулыя сэрцы. Няхай яны заўсёды будуць адкрытыя на людзей, нясуць цяпло і шчодрасць.

*З павагай вернікі з капл. Ліпічна*

**Паважаным Айцам Вітольду Пяцельчыцу, Віталію Сярко, Віталію Слуку і Яну Асіповічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем духоўнай радасці, здзяйснення ўсіх мэт і задум, якія ёсць у Вашых сэрцах. Няхай яны і далей спрыяюць развіццю нашай веры і міласэрнасці, разуменню сэнсу жыцця, еднасці парафіян. Сардэчна дзякуем за шчырую малітву, любоў і цярплівасць.

*З павагай і ўдзячнасцю парафіяне, а таксама Душпастарства настаўнікаў і выхавацеляў з пар. Шчучын*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Пяцельчыцу**

з нагоды Дня нараджэння складаем шчырыя пажаданні здароўя, радасці, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Маці Божай. Дзякуем за навуку, кіраўніцтва і штодзённы клопат аб нашым духоўным узрастанні.

*Душпастарства настаўнікаў і выхавацеляў з пар. Шчучын*

**Паважаным Айцам Вальдэмару Слоту і Андрэю Ядкоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі і людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Маці Божай дадаюць моцы і цярплівасці.

*Вернікі і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з пар. Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, душэўнага супакою, добрых людзей на святарскім шляху. Шчыра дзякуем за прыгожыя св. Імшы, працу ў нашай парафіі і абвяшчэнне Божага слова, за тое, што дапамагаеце выхоўваць нашых дзяцей і ўнукаў у веры і любові да Бога, вучыце быць адказнымі за свае ўчынкі. Жадаем усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа, разважлівасці і моцы ў выкананні святарскай паслугі. Няхай у Вашым сэрцы заўсёды жыве любоў, а навокал пануе супакой.

*З малітвай парафіяне з вёсак Луконіца і Старое Сяло*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Яну Гавецкаму, Ксяндзам Віталію Чургану і Мікалаю Ціхановічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, аптымізму, сонечных дзён. Няхай уваскрослы Езус умацуе Вашу веру, распаліць любоў і стане крыніцай супакою, памяркоўнасці і павагі. Для Ксяндза Мікалая Ціхановіча асобныя словы падзякі за змястоўныя і сардэчныя Божыя словы ў дні рэкалекцый у нашай парафіі. Няхай Пан штодзённа ўзмацняе Вас і адорвае ўсімі неабходнымі ласкамі.

*Сям'я Езерскіх з Юрацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды Дня святара, свят Уваскрасення Пана і Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, цярплівасці ў выкананні штодзённых абавязкаў, нястомнай дапамогі Маці Божай і дароў Святога Духа. Няхай Ваша праца прыносіць шчодры плён, а на жыццёвым шляху будуць толькі зычлівыя людзі. Радасці, супакою, рэалізацыі ўсіх планаў і радасных свят!

*Удзячныя парафіяне з Забалаці*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму, а таксама ўсім Святарам дэканата Берастаўца**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Хрыстос – Збаўца свету – адорвае Вас сваімі ласкамі, радасцю і супакоем.

*Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў і колы Жывога Ружанца з Вялікіх Ядкевічаў*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Несцеру і Юрыю Марціновічу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні Божага блаславлення, апекі Найсвяцейшай Маці, моцнага здароўя, сілы і цярплівасці на святарскім шляху. Ідзіце па ім адважна і верна, напоўненыя Божай мудрасцю і святым запалам. Дзякуем за цудоўнае абвяшчэнне Божага слова, мудрасць і малітву.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем шмат здароўя, душэўнага супакою, шчаслівай працы, добрых і чулых людзей навокал. Няхай Бог няспынна адорвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая апекуецца Вамі і вядзе сваім позіркам на кожным месцы працы. Жадаем моцы і стойкасці на службе Богу і людзям, а таксама нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова.

*З удзячнасцю парафіяне з в. Гінэлі і касцёльны хор з в. Нача*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку**

з нагоды свят Уваскрасення Езуса Хрыста і Дня святара перасылаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай Ваша жыццё будзе напоўнена толькі добрымі справамі, і Бог Айцец адорвае здароўем, сілай і цярплівасцю. Няхай уваскрослы Хрыстос і Яго Найсвяцейшая Маці апраменьваюць Вас бязмежнай любоўю і асвячаюць кожны дзень святарскай паслугі, а Святы Дух спасылае на Вас свае шчодрыя дары. Дзякуем Вашай маме за сына святара.

*Удзячныя парафіяне з Казловічаў і Торфабрыкетнага*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**

з нагоды свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні ўсяго найлепшага: моцнага здароўя, нястомнай радасці, рэалізацыі планаў і здзяйснення мар, а таксама зычлівых людзей побач. Няхай уваскрослы Хрыстос заўсёды Вамі апекуецца, а Святы Дух і Божая Маці маюць у сваёй апецы на працягу ўсяго жыцця.

*Парафіяне з в. Шэмбелеўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Гавецкаму**

з нагоды Дня святара, свят Уваскрасення Пана і Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі і людской добразычлівасці. Няхай Вам спадарожнічае блізкасць Таго, хто паклікаў да святарскага жыцця, св. Заступнік абараняе ў кожную хвіліну, добры Бог адорвае сваімі бацькоўскім блаславленнем, Святы Дух вядзе па Божых сцежках, а Анёл-ахоўнік пляце Вам вянок з белых руж.

*"Легіён Марыі Нястомнай Дапамогі" з Іўя*

**Паважаным Ксяндзам Віталію Цыбульскаму і Алегу Яновічу, Сёстрам Ірэне і Зоф'і**

з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем нязгаснага запалу і плённай працы на Божай ніве. Няхай міласэрны Бог і Святы Дух дадаюць Вам сіл і натхнення, а Найсвяцейшая Маці адорвае ласкавасцю і цеплынёй свайго сэрца. Здароўя, шчаслівых і радасных свят!

*"Легіён Марыі Нястомнай Дапамогі" з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай на дарозе, якую ўказаў Пан, Вам заўсёды спадарожнічаюць Езус і Яго Найсвяцейшая Маці, а жывы агонь Святога Духа, які палае ў Вашым сэрцы, ніколі не аслабне. Дзякуем за шчырыя малітвы, мудрыя казанні і прыклад набожнасці.

*Парафіяне з Жырмунаў*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Несцеру, Ксяндзам Юрыю Марціновічу і Віктару Савіцкаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана ад усяго сэрца жадаем здароўя, душэўнага супакою, добразычлівых людзей побач, нястомнай радасці на кожны дзень. Няхай Вашае жыццё будзе шчаслівае і блаславёнае, а Бог адорвае сваімі ласкамі.

*Вернікі з в. Вінцукі*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем здароўя, шчасця, поспехаў, шмат Божых ласкаў, радасці на кожны дзень святарскай паслугі і апекі Маці Божай. Няхай уваскрослы Езус адорвае Вас сваёй любоўю.

*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу, Ксяндзам Андрэю Радзевічу і Віктару Мыслюку, а таксама ўсім Рэкалекцыяністам,**

якія працавалі ў нашай парафіі, складаем сардэчныя пажаданні. Жадаем нястомнай адновы Вашага святарства ў Святым Духу. Просім Бога, каб кожны з Вас знаходзіў у сваім сэрцы і стала пацвярджаў тое аўтэнтычнае значэнне, якое мае Ваша асабістае святарскае пакліканне, каб, нястомна дзякуючы, Вы ўзмацняліся ў вернасці таму святому дару, які з-за сваёй бескарыслівасці яшчэ больш абавязвае. Жадаем той святасці, якая выражаецца старанносцю і самаадданасцю, каб Вас заўсёды ўзмацняла моц Святога Духа і любоў да Эўхарыстыі, каб Вы стараліся быць вераго̆днымі сведкамі Хрыста ў сучасным свеце, каб Вашыя словы плылі з чыстага сэрца, якое мае ў сабе прастату і шчырасць сапраўдных вучняў, каб у таямніцы Вашага святарскага жыцця Хрыстос стаў бачным і чутным.

*З хрысціянскім прывітаннем парафіяне з Росі*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды Дня святара ад усяго сэрца жадаем стойкасці і цярплівасці ў святарскай паслузе, апекі Найсвяцейшай Маці, сілы ў руках і чыстага агню ў сэрцы, які запаліць усё навокал шчасцем і радасцю. Няхай Дух Божы Жыве ў Вашым сэрцы і ніколі не дазволіць забыцца пра тое, што ў святарскім жыцці самае важнае. Няхай Вашае сэрца пашыраецца і адкрываецца на нязмерную Божую любоў. Няхай Божая міласэрнасць заўсёды Вам спадарожнічае ў святарскай паслузе, а ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару. Усіх дароў Святога Духа, здароўя, зычлівасці ад парафіян і нястомнага блаславлення ад уваскрослага Хрыста.

*З хрысціянскім прывітаннем сябры*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Васількевічу**

з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем шмат здароўя, шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, душэўнага супакою і добрых людзей навокал. Няхай Маці Божая мае Вас у сваёй апецы заўсёды і ўсюды.

*"Маргарытка" з пар. св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Рышарду Пэрчаку**

з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, Божага блаславлення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашага жыцця і дапамагае пераждаць усе цяжкасці.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Дзітвы*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Сядлецкаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, поспехаў у душпастарскай паслузе, аптымізму і радасці на кожны дзень. Няхай Ваш св. Заступнік штодзённа Вамі апекуецца, а Маці Божая няспынна ўзносіць нашыя малітвы за Вас да Божага трона.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Усялюба*

працяг на с. 8

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа, радасці, моцнага здароўя. Дзякуем Вам за Божае слова, малітву і добрае сэрца.

*Парафіяне з касц. Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды Велікодных свят жадаем шмат здароўя, шчасця, душэўнага супакою і шчодрых ласкаў ад уваскрослага Езуса. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі кожны дзень, а Святы Дух асвячае святарскі шлях.

*Мікулка Людміла, Семернік Яніна, Семернік Зоф'я*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу**

з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя, радасці і шчасця, апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, доўгіх гадоў жыцця для службы Богу і людзям. Няхай уваскрослы Хрыстос асвячае сваёй ласкай Ваш зямны шлях. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова і павучальныя казанні, якія пакідаюць у нашых сэрцах глыбокі след.

*Вернікі з капл. Таневічы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Рамару Ялоўчыку**

з нагоды Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні Божага блаславлення і апекі Маці Божай. Жадаем моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл для далейшай душпастарскай паслугі. Няхай Бог адорвае Вас усімі ласкамі і ўзмацняе для выканання нялёгкай святарскай працы. Шчыра дзякуем за клопат аб нашай парафіі, навуку, цярплівасць і ахвярную працу.

*З павагай удзячныя парафіяне з Кемелішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Дулю**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні: шмат Божых ласкаў, здароўя, патрэбных сіл у выкананні пастырскага служэння, дароў мудрасці, розуму, мужнасці. Жадаем, каб кожны дзень Вы нанова чэрпалі радасць і ўмацаванне глыбокага сяброўства, якое яднае святара з укрыжаваным і ўваскрослым Хрыстом. Няхай Добры Пастыр вядзе Вас праз жыццё, удзяляючы патрэбныя ласкі для выканання даверанай місіі, Марыя, Маці Касцёла, разам са святымі і блаславлёнымі сведкамі веры будуць заступнікамі перад Айцом у небе ва ўсіх Вашых справах, Дух Святы кіруе Вамі як пасланнікам праўды і дабра Касцёла, а абвешчаная Вамі Добрая Навіна напаўняе вернікаў жывой верай, надзеяй і любоўю.

*З удзячнасцю вернікі, дзеці і моладзь з пар. св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Віктару Велівісу і Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму, а таксама Сястры Ядзвізе Мяцеліца**

з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем букет найлепшых пажаданняў: мноства Божых ласкаў, добрага здароўя на доўгія гады, сілы, душэўнага супакою, сталай апекі Найсвяцейшай Маці, павагі, моцы і стойкасці ў паслузе Богу і людзям. Няхай уваскрослы Збаўца нястомна адорвае Вас сваімі ласкамі, штодзённа блаславляе і падтрымлівае на душпастарскім шляху.

*Парафіяне з Грандзічаў і Путрышак*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу**

з нагоды Дня Святара і Велікодных свят жадаем Божага блаславлення, усіх ласкаў ад уваскрослага Хрыста, дароў Святога Духа на кожны дзень святарскай паслугі, здароўя і доўгіх гадоў жыцця. Радаснага Алелюя!

*Вернікі з пар. св. Францішка з Асізі ў Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца складаем найлепшыя пажаданні. Здароўя на доўгія гады, шчасця, радасці, поспехаў у душпастарскай працы. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цеплынёй, людской зычлівасцю і супакоем. Усіх Божых ласкаў на святарскім шляху! Няхай уваскрослы Хрыстос заўсёды апекуецца Вамі.

*Вернікі з пар. Нараджэння НМП у в. Дуды*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды Велікодных свят і свята Божай Міласэрнасці перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі і людской зычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Найсвяцейшай Маці дадаюць сіл і цярплівасці.

*Касцёльны хор, касцёльны камітэт і вернікі з пар. Божай Міласэрнасці ў в. Доцішкі*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензе, Андрэю Врублеўскаму, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану і Эдуарду Пяцельчыцу** з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага блаславлення на кожны дзень працы, радасці з паклікання, мудрасці, моцнага здароўя на доўгія гады, шчырай, аддадзенай любові да Бога і кожнага чалавека.

*Апостальства вечнай малітвы за святароў "Маргарытка" з пар. Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Урбановічу, Артуру Валчкевічу, Віталію Цыбульскаму, Юрыю Ёдзіку і Аляксандру Вараб'ёву**

з нагоды Велікодных свят перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, радасці, цярплівасці і ўсіх Божых ласкаў. Няхай добры Бог блаславляе Вас у святарскім служэнні. Ад усяго сэрца дзякуем за малітву, ахвярную працу, адкрытае сэрца і адданую службу Богу і людзям.

*Вернікі з пар. св Яна Паўла ІІ, г. Смаргонь*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу**

шчыра дзякуем за трохдзённыя велікапосныя рэкалекцыі і віншуем са святам Уваскрасення Пана. Ад шчырага сэрца жадаем поспехаў ва ўсіх справах, рэалізацыі высакародных планаў і намераў. Будзьце святаром паводле Сэрца Езуса, а Найсвяцейшая Панна Марыя няхай трымае Вас у сваёй апецы.

*Вернікі з пар. св Яна Паўла ІІ, г. Смаргонь*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, добрых і зычлівых людзей, гатовых прыйсці з дапамогай у кожную хвіліну. Няхай Святы Дух асвячае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом мацярынскай любові.

*Парафіяне з Каробчыцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму**

з нагоды Велікодных свят жадаем здароўя, шчасця і стойкасці ў душпастарскай працы, апекі Найсвяцейшай Маці, дароў Святога Духа і мноства цудоўных хвілін на святарскім шляху. Няхай уваскрослы Хрыстос прынясе радасць, супакой і мноства дзён, напоўненых Яго дарамі. Дзякуем за распалены агонь веры, малітву, адкрытае сэрца і адданую паслугу Богу і людзям.

*Сем'і Стэцкевіч і Васільевых*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Павел Салабуда!**

У асаблівы дзень устанаўлення сакрамантаў святарства і Эўхарыстыі ад усяго сэрца жадаем Вам, каб Вялікі Чацвер і цэлы святы Трыдыум былі часам адкрыцця нанова дару святарства ў служэнні іншаму чалавеку. Жадаем адвагі, каб стаяць пад крыжам нашага Пана і Збаўцы, а таксама каб Хрыстос, Найвышэйшы Святар, узмацняў Вас і адорваў радасцю ў абвяшчэнні Евангелля.

*З малітвай парафіяне з Альшанкі*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу**

з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і блаславёны, сэрца напаўняе радасць, любоў і надзея, у душы жыве супакой, а з твару не сыходзіць усмешка. Жадаем таксама моцнага здароўя, шмат сіл у вядзенні Божага люду, цярплівасці ў пастарскай паслузе і ўсіх ласкаў ад уваскрослага Хрыста!

*Парафіяне з Дзятлава*

**Паважаным Ксяндзам Аляксандру Мятліцкаму, Казіміру Мараўскаму, Юзафу Багдзевічу, Дзмітрыю Урбановічу, Віктару Захарэўскаму, Яну Раманоўскаму, Паўлу Раманоўскаму і ўсім Ксяндзам з нашай парафіі**

з нагоды Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас усімі дарамі, здароўем, сілай, радасцю, зычлівасцю людскіх сэрцаў. Няхай агонь Святога Духа палае ў Вашых сэрцах і ніколі не гасне, а кожны дзень прыносіць блаславёны плён у Вашай працы.

*З малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважаным Сёстрам Ірыне Барцэвіч, Валянціне Кот, Вераніцы Блізнюк, Мар'яне Алешчык, Агаце Смольскай, Філатэі Ціхановіч, Клары Волчэк і Аляксандры Арэшка**

з нагоды Велікодных свят сардэчна жадаем: няхай уваскрослы Езус адорвае Вас любоўю, здароўем, супакоем, а Яго Айцец узнагароджвае за працу з дзецьмі і моладдзю, якіх Вы вядзеце да Бога.

*З малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіславу Сурвілу**

з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Ад усяго сэрца жадаем, каб міласэрны Бог заўсёды Табой апекаваўся, а Маці Божая ахінала сваім плашчом. Здароўя, шчасця, набожнасці, цярплівасці і добрых, зычлівых людзей побач.

*Бабуля і дзядуля з усёй сям'ёй*

**Паважаным Ксяндзам Віталію Сідорку, Мікалаю Ціхановічу і Андрэю Радзевічу**

з нагоды Велікодных свят складаем самыя сардэчныя пажаданні радасці, супакою і ўсялякіх поспехаў. Няхай радасны час Уваскрасення Езуса Хрыста, які нясе адраджэнне, дадае веры і сіл, аднаўляе надзею і веру ў міласэрнасць Пана і яшчэ больш набліжае да Яго аблічча. Няхай Бог Вас благаславіць!

*З малітвай Душпастарства службы аховы здароўя*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Сідорку**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем Божай любові, блаславлення і шмат радасных хвілін. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае сваім святлом кожны дзень Вашага святарскага служэння, а Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе да свайго сэрца.

*З малітвай Душпастарства службы аховы здароўя*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

ад усяго сэрца складаем шчырыя пажаданні з нагоды Велікодных свят! Няхай у гэты радасны час уваскрослы Хрыстос паселіцца ў Вашым сэрцы, напоўніць яго любоўю, радасцю, супакоем, адновіць веру, унясе надзею і будзе натхненнем у штодзённым жыцці.

*З малітвай малітоўная група МБ Кангрэгацкай*

**Шаноўнай Сястры Гарэцці Мількевіч**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем Божага блаславлення, усіх ласкаў ад Уваскрослага Хрыста, дароў Святога Духа на кожны дзень, а таксама доўгіх гадоў жыцця ў здароўі.

*Вернікі з пар. Тэалін*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды Велікодных свят перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай уваскрослы Хрыстос адорвае сваімі ласкамі кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі, Святы Дух асвячае шлях, а Найсвяцейшая Панна Марыя нястомна апекуецца Вамі і вядзе найлепшай дарогай да Пана.

*Сям'я Заяц*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шаньчуку**

з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні Божага блаславлення, здароўя, радасці, аптымізму, душэўнага супакою, моцнай веры, поспехаў у душпастарскай працы і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя вядзе Вас найлепшай дарогай да святасці, а міласэрны Езус апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень.

*Парафіяне з Гожы*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу**

з нагоды свят Хрыстовага Уваскрасення складаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус адорвае Вас усімі дабротамі гэтага свету, каб Вы маглі доўга служыць Богу і людзям. Няхай смутак Вас абмінае, а радасць крочыць побач. Дзякуем за адданую працу, чулае сэрца і духоўную падтрымку.

*З павагай і любоўю сем'і Вайтушка, Мілейка, Капковіч*

**Паважаны Ксёндз Юрый Жэгарын!**

Ад усяго сэрца віншуем Вас са светлым Хрыстовым Уваскрасеннем. Няхай Езус заўсёды атуляе Вас сваёй любоўю, ласкай, міласэрнасцю, сцеражэ на кожнай жыццёвай сцяжыне, адорвае сілай духу, ахвярнай любоўю, непахіснай верай. Няхай Божая Маці прытуляе Вас да свайго сэрца і падтрымлівае сваім заступніцтвам. Будзьце заўсёды моцным, верным, адданым рыцарам у Хрыстовай дружыне!

*З вялікай любоўю і пашанай парафіяне, Біблійнае кола, моладзь, дзеці з касц. св. Міхала Арханёла, г. Навагрудак*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Грэмзу і Уладзіміру Шкурынскаму**

з нагоды свят Уваскрасення Пана ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, апекі Маці Божай, дароў Святога Духа. Дзякуем Вам за добрае і чулае сэрца, любоў і цярплівасць да нас. Мы памятаем пра Вас у сваіх малітвах.

*Апостальства "Маргарытка"*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ігнатовічу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем супакою і радасці ў душы, здароўя, удалага супрацоўніцтва з супольнасцю вернікаў, да якіх Вы былі пасланы. Няхай адзіны Бог вядзе Вас простымі сцежкамі, Дух Божы стала жыве ў Вашым сэрцы і ніколі не дазволіць забыцца пра тое, што ў святарскім жыцці самае важнае, а Маці Божая няхай атуляе Вас плашчом мацярынскай апекі.

*Удзячныя парафіяне*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Аляксандр Лебядзевіч!**

Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння. Няхай Бог Айцец благаславіць Вас, Езус Хрыстус дапамагае быць верным і святым ксяндзом, Святы Дух асвятляе і вядзе па Божых сцежках, а Марыя, Маці святароў, па-мацярынску апекуецца Вамі і вучыць пакоры. Няхай кожны дзень жыцця праходзіць у радасці, здароўе будзе моцным, а побач будуць толькі зычлівыя людзі. Старайцеся сваё сэрца па ўзоры Хрыстовага Сэрца. Заўсёды памятаем аб Вас у малітве і бясконца ўдзячны Богу за такога пробашча як Вы!

*З павагай моладзь, а таксама суполка "Equipes Notre-Dame" з Суботнікаў*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Алегу Жураўскаму, Ксяндзам Паўлу Шчарбіцкаму і Аляксандру Пятровічу**

з нагоды Велікодных свят складаем самыя шчырыя пажаданні: моцнага здароўя, шчасця, цярплівасці ў душпастарскай працы і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай уваскрослы Хрыстос адорвае супакоем і любоўю, Найсвяцейшая Панна Марыя апекуецца Вамі, а Пан Бог мае ў сваёй міласэрнасці.

*Моладзь, міністранты, парафіяне з касц. св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды Велікодных свят перасылаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі і людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Найсвяцейшай Маці дадаюць сіл і цярплівасці. Дзякуем Вам за добрае і чулае сэрца, клопат аб нашых дзецях, за ратаванне і навяртанне нашых душ, а Пану Богу – за тое, што паслаў нам Вас.

*Парафіяне з дзярэчынскага касцёла*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Барысевічу**

ў Дзень нараджэння і з нагоды Велікодных свят жадаем шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя, радасці ад паклікання. Няхай стойкасць і супакой заўсёды Вам спадарожнічаюць. Ад усяго сэрца дзякуем Богу за тое, што Вы з намі, за навуку, якую Вы так шчыра абвяшчаеце пры святым алтары, за шчырую службу Богу і людзям. Няхай Маці Божая атуляе Вас плашчом мацярынскай любові, святы заступнік нястомна апекуецца Вамі, а побач заўсёды будуць добрыя і чулыя людзі.

*Парафіяне і кола Жывога Ружанца з Наваельні*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Жывалеўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя, Божага блаславлення і мноства радасных хвілін на нялёгкім шляху, які для Вас падрыхтаваў Пан. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае Вас сваёй любоўю і апекай, асабліва ў цяжкія хвіліны.

*Кола Жывога Ружанца, в. Падлабенне*

**Паважанаму Ксяндзу Яраславу Грынашкевічу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя, Божага блаславлення і апекі Маці Божай. Няхай Дух Святы асвячае сваім святлом кожны дзень Вашай паслугі і дае сілы ў вядзенні люду да Бога.

*Сям'я Сымбула з Гродна*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Грыцко**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця, добрых і чулых людзей навокал. Няхай Бог, які паклікаў Вас да святарства, няспынна адорвае сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго сэрца.

*Вернікі з пар. Узвышэння Святога Крыжа ў Першамайску і з капл. Божай Міласэрнасці ў Хадзілонях*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіславу Сурвілу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаю самыя сардэчныя пажаданні Божых ласкаў, моцнага здароўя, цярплівасці і стойкасці на святарскім шляху. Няхай Маці Божая няспынна апекуецца Вамі, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі.

*Ад усяго сэрца, пані Ірэна*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Грыцко**

ў сувязі са смерцю любімай мамы Рамуальды перасылаем словы шчырага жалю і спачування. Яднаемся з Табой у малітве, просячы Пана, каб як мага хутчэй прыняў яе ў сваё Валадарства.

***Найбліжэйшыя родныя***

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Грыцко**

ў сувязі са смерцю мамы выказваем словы сардэчнага жалю і спачування спалучаныя з малітвай. Няхай міласэрны Бог дадасць Вам моцы, каб перажыць цяжар страты блізкага чалавека.

***Вернікі з Першамайска і Новага Двара***

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Грыцко**

ў сувязі са смерцю мамы перасылаем свае шчырыя спачуванні. Няхай наша малітва будзе для Вас падтрымкай у гэтыя цяжкія хвіліны.

***Утаўка Зоф'я і Юзаф з в. Вензаўшчына***

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1754; тыраж 5100; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная